№. 1. Цана 50 гр.





# Вучнёўскі Звон

Год выданьня II.
Студзень — 1930

# ВУЧНЁЎСКІ ЗВОН

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ВУЧНЁЎСКАЙ МОЛАДЗІ ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9.

Год II. Студзень 1930 г. № I.


## Па веду.

Наш народ, які ўжо здаў экзамен соцыяльна-грамадзкае сьпеласьці, разумее патрэбу й значэньне роднае школы. Аднак, ня гледзячы на ўсе высілкі, робленыя ім у кірунку здабыцьця беларускае школы, на Зах. Беларусі йстнуе ўсяго толькі 3 сярэднія школы. Ня будзем уваходзіць у прычыны гэтага балючага для нас факту; аб іх ужо пісалася й пішацца ў беларускай, польскай і замежнай прэсе. Адзначым толькі, што беларуская моладзь вучыцца пераважна ў польскіх пачатковых і сярэдніх школах. Дзякуючы гэтаму стану рэчаў аб нармальным разьвіцьці й узгадаваньні яе няма мовы. Тыя-ж шчасьліўцы, якія трапілі ў беларускія пачатковыя школы, мала могуць скарыстаць у іх, дзякуючы неадпаведнай кваліфікацыі вучыцялёў. Адкрыць бел. вучыцельскія курсы, як ведама, улады не дазволілі. У беларускіх-жа пачатковых школах вучаць дзяцей людзі, часта ня ведаючыя добра ня толькі нашай мовы, але й народу. Да таго амаль 80% з усіх беларускіх пачатковых школаў — гэта ўтраквістычныя (двуязыковыя), дзе беларуская мова выкладаецца толькі, як прадмет.

Моладзь-жа, якая знаходзіцца ў беларускіх (прыватных!) сярэдніх школах, прымушана з малых гадоў трываць у напружаным змаганьні з благімі матэр'яльнымі абставінамі. Аднак нішто ня можа стрымаць яе ў імкненьні па веду. З далёкіх куткоў Зах. Беларусі зьяжджаецца яна, каб часта ў холадзе й голадзе самаахвярна працаваць над

кнігай. Сьвядомая сваіх мэтаў і заданьняў, моладзь наша бачыць тую вялікую працу, якая чакае яе па сканчэньні сярэдняе школы. На ўсіх фронтах нашага жыцьця яшчэ шмат ялавіны, якую прыдзецца моладзі ўзгараць плугам працы й запалу.

Адзін факт, які тут мы прыводзім, прымусіць паважна задумацца аб нябачаным гэраізьме нашай моладзі. Пасьля роспуску вучняў на калядныя фэрыі, адзін вучань III-яе клясы ехаў з Вільні аж у Слонім (!) у касьцюме пад якім меў падапрененую толькі адну сарочку. І гэта 22 сьнежня, калі на двары стаяў мароз. Факт, які гаворыць сам за сябе. І вось тут хочацца кінуць на паперу горкую ўсьмешку пагарды, хочацца правесьці параўнаньне між сучаснай моладзьдзю польскіх сярэдніх школаў і беларускай. Калі тая моладзь, якая вучыцца на кошт гаспадарства, знахододзіцца ў упрывелігіяваным палажэньні, то мы часта, ох як часта, праліваем гарачыя, юнацкія слёзы, бо

ня можам, ня маем магчымасьці вучыцца.

Ня гледзячы на гэта, мы ўсе-ж здабудзем веду! Здабудзем, бо павінны, бо забавязаны ў гэтым перад нашымі бацькамі, нашым народам, які аддае свой апошні, мазолем запрацаваны грош, на нашую прыватную школу.

Скажам словамі Янкі Купалы:

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй!

Па веду!

---

**Х. І.**

* * *

Сонца гразьне ў чырвоны кісель...
Каласьсяна залацяцца гоні.
На ўзьлесьсях пасела імглістая бель,
Быццам стада белагрывых коняў...
З-за вазёр, з сінядымнага краю
Прыляцела вячорная бая.
Нехта ў полі далёка пяе,
Воз мой песьні таей напявае...

Пружаны. 1929.

Х. І.

# Есенін у беларускай поэзіі.

*(„Малюнкі“ М. Машара. 1928. Выданьне Л. Войцікавай).*

Есенін *) зьяўляецца хіба адным з сучасных поэтаў, які зацікавіў усіх. Яго поэзія—гэта „жість“ тае шматміліённае Русі, якая складалася вякамі й цяпер так трагічна й адначасна прыгожа памірае. „Я последний поэт деревни“— кажа Есенін. У „Саракаусьце“ ён дае абраз заваяваньня вёскі местам. „Вот он, вот он, с железным брюхом, тянет к глотке равнин пятерню“. Есенін, як „псаломщик“ пяе „над родимой страной аллилуйя!..“ Уся поэзія Есеніна — гэта „лебядзіная песьня“ старое Русі. І сама сьмерць Есеніна зусім лягічна—неабходная, як „апошняе слова“, як эпілёг яго поэтыцкай творчасьці. Ен, Есенін, „пришел на эту землю, что-б скорей ее покинуть“. Есенін—перад усім мужыцкі сын, які мае душу, абвеяную сьвежасьцю вазёраў, напояную вёскай. Есенін таму і імажэніст. Старая вёска, якую „трясет стальная лихорадка“ гэта вобразы, гэта „сказ в прутнике“, „что нашептал ковыль“.

„В окна б'ют без промаха
Вороны крылом;
Как мятель, черемуха
Машет рукавом...”

Есеніна трэба чытаць, Есенін цікавы, Есенін кожны раз прамаўляе да нас інакш.

Зразумела, щто ён мае ўплыў, фактычна ня ён, а тое, што ён падмеціў, што ён глыбака адчуў і перажыў, гэта—трагізм сучаснае вёскі.

Найбольш хіба з усіх беларускіх поэтаў выглядае сваімі сумнымі вачыма Сяргей Есенін **) у творчасьці маладога паэта Міхася Машары. Яго маленькі зборнічак вершаў (усяго 15 вершаў) нарабіў шмат шуму, хоць беларуская крытыка чамусьці прамаўчала гэтае „новае“ ў бел. поэзіі, як і наагул шмат чаго іншага.

---

*) Сяргей Есенін радзіўся ў 1895 г. у Разанскай губ., пачаў пісаць вельмі рана; у 15—16 гадоў напісаў самыя прыгожыя творы (як сам выразіўся—„в глубину“) Пасьля рэвалюцыі мае адпаведныя ўмовы жыцьця; езьдзіў у Зах. Эўропу Жаніўся з вядомай танцоркай І. Дункан. У 1925 г. павесіўся. Яго творы: „Стихи скандалиста“, „Стихотворения и юношеские поэмы“. Шмат выданьняў у Расеі.

**) Ня ўжываю туг слова „есенінаўшчына“, бо словам гэтым звычайна злоўжываюць.

Трэба з задаваленьнем канстатаваць вырастаньне паэтыцкага маладняка ў Зах. Беларусі. Хоць арганізацыйна ён ня йстнуе, але фактычна прызнаны, як чытаючай Беларусьсю, так і беларускай (а нават і загранічнай) крытыкай.

Машара—сын вёскі. Ен зжыўся з ёю, зрадніўся, надыхаўся яе паветрам.

Вёска, вёска родная,
Міла сэрцу ты!..

кліча ён, а праз верш далей заяўляе голасна:

Я сын галоты і цямры,
Паўстаў я з поту і крыві
Я шэрай, ціхай вёскі сын...

Машара парывае з старымі напевамі. У першым вершы ён дае праграму свае, а фактычна й усяе навейшае бел. паэзіі:

Песьні, песьні маркоты і болю,
Годзе ныць!..

Сялянскасьць праяўляецца й тут:

Хутка выйдзе з сялянскага нетру
Новы волат: бяз сьлёз і бяз жаху —

абвяшчае ён прыход даўночаканага гасьця.

Пастараемся прааналізаваць вершы Машары, дашукацца ў іх уплыву Есеніна, які гучыць як у вобразах, так і ў рытме, і зрабіць пэўныя вывады.

„Вёска“, бязумоўна, напамінае есенінаўскі „Край“; некаторыя мейсцы нават вельмі падобныя

Вёска, вёска родная,
Міла сэрцу ты —
Байка ты чароўная,
Што пяюць вятры

і

Уж не сказ-ли в прутнике
Жисть твоя и быль,
Что под вечер путнику —
Нашептал ковыль...

Або „тры яблыні—сад” прыпамінае ў пэўнай меры: „избы забоченились, а всех-то – пять“ і іншае. Настрой, тон, форма зусім, як у Есеніна.

У цэлым радзе іншых вершаў чуецца тон есенінскае „зьмірэннасьці”, духовае цішыні й як-бы зьліцьця з прыродай.

„Не магу, не магу зразумець,
Ці то восень зьненацку прыйшла,
Ці разьліў хто чырвоную медзь“...

Верш „Цяпер я ўжо зусім ня той“ напамінае шмат у чым верш „Теперь любовь моя не та... в тоске по гречневым просторам“... „Верасьнявая ціш“, „З вясновых малюнкаў“, „З вясновых настрояў“ і іншыя маюць, бязумоўна, у сабе ўплыў Есеніна.

З творамі Есеніна пазнаёміўся М. Машара ў вастрозе, дзе, здаецца, і пачаў пісаць. Зразумела, што Есенін найбольш прамовіў да Машары, як чулага вяскоўца—інтэлігэнта. Уплыў Есеніна, бязумоўна, у „Малюнках“ выразны. Асабліва-ж выразны ён у раньніх творах Машары, якія, на жаль, ненадрукаваны. Там Машара „пасьвіць воблачкі ў Бога“; „пастушок сварыцца ў небі за родны край і ўвесь час глядзіць на сваю родную Беларусь“. Форма гэтых раньніх вершаў надзвычай вобразная. Аднак, адначасна з гэтым уплывам, які ў раньніх творах асабліва выразны, Машара разьвіваецца самастойна. У „ Малюнках“ мы бачым, як ён пераможна вызваляецца з пад безпасрэднага ўплыву й шукае самастойных шляхоў. Перад усім багата чэрпае з крыніцы народнае творчасьці. Гэта вельмі важны мамэнт у творчасьці Машары, бо ён выразна сьведчыць, што „ўсяго“ ад Машары мы яшчэ павінны чакаць. Ен найбольш хіба „сэрдэчна“, заглыблена шукае красы, шукае ўрэшце й новае формы. Адрывак вершу „Поэзія“ найбольш яскрава дасьць нам паняцьце аб адносінах Машары да свае працы:

Дай мне скрыдлы, дай сілы размаху,
Каб я мову паняць мог тваю,
Каб я сьмела, бяз нейкага жаху,
Аб табе мог пяяць у вяршу. —

зварачываецца ён да Паэзіі.

Краса, прыгожасьць стаяць у Машары на першым мейсцы, у „Малюнках“ аднак ён жыве з мільённай беларускай вёскай.

„Я — сын галоты і цямры“ —

кажа ён.

Машара здольны пераліць свае духовыя настроі ў чытача, здольны адкрыць, паказаць сваю „душу“ ў вершы. Машара, бязспрэчна, мае вялікі талент. Хто ведае, ці ня другі Багдановіч углядаецца ў „Малюнках“ на прыроду, Багдановіч сучасны, блізкі да нашага, ужо магутнага, Адраджэньня?

У кожным выпадку, прадуктыўная творчасьць Машары, а галоўнае яго ўпартае шуканьне новага ў галіне як і формы, так і зьместу, як ён сам кажа, шуканьне „без адрыву“, прарочыць нам шмат.

# Літэратурная праца.

Для кожнага пачынаючага літэратара неабходна пазнаёміцца з тэхнічнай стараной літэратурнае працы. На першы пагляд гэтая справа здаецца зусім зразумелай і не патрабуючай ніякіх тлумачэньняў. Які-ж можа быць клопат з напісаным творам? Аўтару прыходзіцца несьці ўвесь цяжар працы! Ен з глыбіні сваёй істоты — выдабывае залатыя думкі, чароўныя вобразы!

А надрукаваць гэта ўжо зусім лёгка... Так думае кожны, прабуючы свае сілы на літэратурным попрышчы. Аднак, гэтак ня ёсьць.

Выабразіце сабе вялікую рэдакцыю газэты, дзе кожны дзень прыходзіць вялікая колькасьць твораў. Часта ў такой рэдакцыі па вонкаваму выгляду прысланага твору ўжо вырашаецца яго лёс і твор ідзе ў рэдакцыйны кошык.

Ня гледзячы на тое, што магчымы ў гэтым творы арыгінальныя думкі, новыя мастацкія словы, аднак рукапіс можа быць неразгляданы толькі з-за таго, што, напрыклад, напісаны алавіком. Калі мы возьмем пад увагу, што людзі занятыя ў рэдакцыі, звычайныя людзі, якім даражэй за ўсе свае вочы, што навал працы не дазваляе расшыфроўваць нявыразны рукапіс, мы часткова прызнаем слушнасьць рэдакцыі. Зразумела, што ня ўсе выданьні адкідаюць рукапісы (бо часта рабочы, або малаграматны селянін ня можа йнакш напісаць), але ўсёж невыпаўненьне элемэнтарных правілаў літэратурнае працы перашкаджае й тармозіць рэдакцыю. Дзеля гэтага кожны пачынаючы літэратар павінен ня толькі зьвярнуць увагу на зьмест твору, але й на яго вонкавы выгляд.

У гэтым якраз „навічкі" й грашаць. Ім здаецца, што тыя словы, якія яны аддаюць пад суд рэдакцыі, павінны ўзбудзіць цікавасьць у працаўнікаў пяра. Аднак яны забываюцца, што наш век—век грубага матэр'ялізму, калі працаваць у рэдакцыі можа кожны культурны, граматны чалавек.

Першы варунак, на які трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу нашым „навічкам", гэта выразнасьць пісьма. Часта ў рэдакцыю прысылаецца твор напісаны так нявыразна, што сумлiўна ці сам аўтар прачытаў-бы яго лёгка. Найлепш пасылаць творы друкаваныя на пішучай машынцы, або вельмі выразна пісаныя рукой. Гэта палягчае працу рэдакцыі, а з другога боку прамаўляе шмат аб больш менш грунтоўным чытаньні твору. Увага разглядаючага твор працаўніка скірована не на разбор словаў ці літараў, а на самы зьмест твору. Пісаць трэба з аднаго боку паперы,

другі пакідаючы чыстым. Ліст паперы найлепш перагнуць на дзьве паловы й адну палову пакідаць таксама чыстай. Гэта патрэбна для таго, каб рукапіс можна было разрэзаць на часткі (што немагчыма зрабіць пры запісаных дзьвух старонках паперы) і прысьпяшаць набор рукапісу. На палёх перагнутае паперы спраўляюцца памылкі. Часта з вёскі прысылаюць рукапісы, якія пры ўсей ахвоце рэдакцыя ня можа прачытаць, бо папера спісаная з абодвых бакоў заліваецца атрамэнтам. Ня трэба шкадаваць паперы. Павінен быць абавязкова далучаны да рукапісу — подпіс і адрэс аўтара. Бяз гэтага рукапіс ніколі ня можа быць надрукаваны. З сваей стараны аўтар можа вымагаць, каб прозьвішча яго было заменена псэўдонімам, або ініцыялямі, калі з якіх колечы прычынаў ня хоча выявіць свайго сапраўднага прозьвішча

Вельмі добра пасылаць разам з рукапісам пісьмо, у якім ня трэба выбачацца й разсыпацца гучным словам, або пісаць аб сваёй асобе, а выясьніць галоўную думку твору, яго назоў, жаданыя зьмены, умовы друку, практычныя пытаньні.

Мы коратка сказалі аб вонкавым баку рукапісу. Што-ж тычыцца ўнутранага боку, то й тут трэба „навічкам“ мець неабходныя парады. Шмат хто (амаль усе) з пачынаючых літэратараў піша вельмі расьцягнута й шмат. Гэта зразумела: кожны хоча сказаць усё, кожнаму здаецца яго думка ня ясна выражанай. Калі вялікія поэты й журналісты кажуць аб труднасьці „уваплашчэньня“ думкі ў слова, то для пачынаючых гэтыя труднасьці вельмі вялікія. Трэба распрацаваць, зрабіць гібкай сваю думку, каб навучыцца пісаць коратка й зразумела. Тут неабходна слоўная эканомія. Адзін нарвэжскі пісьменьнік напісаў адноўчы ў канцы даўгога ліста, што „напісаў даўгі ліст, бо ня меў часу напісаць кароткі“.

Гэта парадокс на першы погляд. Сапраўды, трэба шмат працаваць, каб напісаць коратка ўсё, што хацелася-б сказаць. Лёзунг: пісаць коратка! павінен заўсёды стасавацца пры літэратурных пачатках.

Ня менш, калі ня больш важнай справай ёсьць арыгінальнасьць твору. Трэба шукаць, бязупынна, упарта шукаць новых літэратурных спосабаў пры пісаньні. Трэба выбраць найадпавяднейшы загаловак, які-б купіў сабе чытача. Увага чытача павінна быць ад пачатку да канца напружанай. Як гэта часта мы пры чытаньні добрае кнігі шкадуем, што так мала напісана, або шкадуем, што хутка канец! Гэта значыць, што аўтар нас зацікавіў, падкупіў.

Бываюць часта тэмы ня зусім цікавыя й ня гледзячы на ўсё жаданьне аўтара зацікавіць чытача памінаюцца чытаючай публікай.

Тады добра рабіць лірычныя адступленьні, пісаць у сьмехатлівай форме, праводзіць параўнаньні, паралелі й т. д. Канец павінен быць таксама арыгінальным. Твор можа канчацца або клічна, або пытальна. Можа таксама закончыцца апавядаўчым тонам, або абарвацца, як і ў музыцы; тады чытачу пакідаецца прастор для самастойных згадак і разважаньняў. Увагі аб ўнутранай старане рукапісу, зразумелая рэч, больш усяго тычацца газэтнай і часопіснай працы.



## Нашы песьняры.

**Х. І**

З цыклю вершаў „Места“

* * *

Тысячай сонцаў у шыбах разьліўся заход.
На радыё — дроце...
вароны спраўляюць вячэрню...
Сьвежасьць навейвае вулачны мрок —
Места вячэрняе.
У іскрах, што ліжуць блакіт языкамі ракет,
У моры людзёў, неўгамонным ніколі...
Чую я нейкі сусьветны прывет —
Вечнае Волі ...

1929

---

**Каласок**

Вучань III клясы В. Б. Г.

### У ШКОЛУ.

Зайшоўшы ў школу зраньня,
Да вечара я быў.
З калегамі гуляў я —
Да хаты ледзь дабрыў.

Амаль што усе пыталі:
Ці двойку я дастаў —
І спаці адпраўлялі
(Хоць лекцыяў ня знаў).

Калі прыйшоў да хаты —
Пытаюцца бацькі:
Дзе быў? дзе прападаў ты?
Нягоднік ты такі...

Сказаўшы чысту праўду,
На печку я палез
І з думкамі аб школе
Заснуў, як цёмны лес.

---

Х І·

* * *

Дрэвы шапочуць у боскай драмоце,
Зоркі гарацъ, зачапіўшысь ў галінах...
Пар лёгкаўздымны кадзіць на балоце,
Таюць ў начы ціхасьпеўныя гімны...
Гэта малітвы к прастору — сусьвету
Узьлётна — вясеньняе уваскрасеньне,
Быццам крылатыя казкі — прывeты,
Быццам цудоўныя песьні — тамленьні...
Слухай... Маўчы...

1927

**Каласок.**

Вуч. III клясы В. Б. Г

## У ЛЕСЕ ВЯСНОЙ.

Сярод зялёнае дубровы
Ручай вясёла працякае
А крыху ніжай, ў самым рове,
Гарэшнік лісьцямі ківае.

Па дрэве весяла гуляе
Вявёрка з дзятлам і жаўной,
Ў маліне салавей сьпявае...
Усё напояна вясной...

Смалою сьвежай плачуць сосны
І арамат цягуча льлюць...
Чутно, як недзе па палянцы
Каровы жаласна равуць.

Х. І.

* * *

З кута на хату вышчарылась
Печка, як чорны кот...
На сьценках мухі рояцца,
Як-бы на нейкі сход...

Праз вокны зачарнелыя
Ўрываецца вясна...
Чарпаюцца ў шыбіны
Праменьчыкі сьвятла...

А побач у перадачку
Вартуюць рагачы...
Хтось стогнучы — гаворачы
Разьлёгся на пячы.

У садзе сьвішча, чохкае
Вясёлы салавей...
На печцы нехта вохкае
І стогне ўсё мацней...

* * *

У бярэзьніку — зялёнцы
Зашумелася вальней...
У кустох, аблітых сонцам,
Зноў зачохкаў салавей...

Зноў я нечага жадаю,
Зноў я нечага томлюсь...
Мо' з вішнёвым цьветабаем
Цалаваць маці — зямлю?..

1929

# Увагі аб музыцы.

Асоба, прыступаючая да разгляду або студ'яваньня нейкага мастацкага твору, павінна мець пэўную інтэлігэнтную й духовую падгатоўку, якая дае магчымасьць адчуць самы сэнс твору, а не ацэніваць твор з вонкавага выгляду.

Асобы, якія ня маюць эстэтычнага разьвіцьця, ніколі не атрымаюць ад паважнага мастацкага твору сапраўднага ўражаньня красы, калі твор ня будзе мець вонкавых эфэктаў, ярка кідаючыхся ў вочы. Часта сустракаемся з словамі, выказыванымі людзьмі, якія чуюць першы раз які нябудзь паважны музычны твор: „гэта мне зусім не падабаецца, з гэтага я нічога не зразумеў“, у той час, калі гэты твор можа быць прызнаны тысячамі слухачоў за вельмі прыгожы й недараўнаны. Тут ня гуляе ролі густ слухача. Ведама, аднаму адное падабаецца больш, а другому тое самае менш, але рэчы монумэнтальныя заўсёды робяць уражаньне на людзей, часта спатыкаючыхся з мастацкімі творамі.

Вучань, які толькі што адолеў сэкрэт элемантара, ня маючы паняцьця аб літэратуры, ніколі не зразумее Шэкспіра, або якога набудзь другога вялікага пісьменніка, але па працягу гадоў, пашырыўшы свой умысловы гарызонт, можа прыступіць да чытаньня гэтых твораў і атрымаць вялікае эстэтычнае задаваленьне. Паважная музыка, як і іншыя мастацкія творы, вымагае інтэлектуальнай падгатоўкі.

Можна мець вельмі добры слух, гуляць на нейкім інструмэньце, але паважных музычных твораў зусім не разумець і не адчуваць. Асоба немузыкальная, чуючая першы раз у жыцьці твор, які ня будзе мець мэлядыйнай тэмы й выразнага тэмпу, не зразумее таго, што хацеў сказаць кампазытар.

Музыка, як і кожнае мастацтва, прамаўляе не да нашага разуму, а да нашага пачуцьця, але сымфонію трэба навучыцца адчуваць. Чуючы сымфонію наагул першы раз у жыцьці, слухач адчуе нічога яму ня кажучы хаос. Чым гэта вытлумачыць, што чалавек, маючы добры слух, ня здолее адчуць прыгожасьці, якая навокал яго ўзбуджае захопленьне? Рэч простая—гэтая асоба ня мае навыку слухаць і не разумее, як трэба слухаць; слухаючы ўсе інструмэнты адразу, ня ўглубіцца ў тэму й не сачыць за ёю. Зразумела, што на першы раз нельга апанаваць твору: для таго, каб добра здаць сабе справу з кампазыцыі, трэба яе чуць некалькі разоў, да таго слухаць ня ўсе інструмэнты

адразу. З першага разу добра скупіць увагу на смычкавым квартэце (які пераважна заўседы вядзе галоўную тэму ў творы). Толькі пасьля перайсьці да акампаньямэнту, і ўжо тады, пасьля такога разбору, можна слухаць усё разам і адчуць прыгожасьць таго, што слухаем. Але ня кожны можа мець магчымасьць слухаць адзін і той самы твор некалькі разоў, хоць ацэна пасьля такога спосабу слуханьня была-б бліжэйшая праўды, чым ад аднаразовага. Для таго каб атрымаць уражаньне з сымфоніі, то хопіць прызвычаіць нашае вуха да выдзяленьня з аркестру рэчаў галоўных. Здабыўшы сабе такую музыкальную здольнасьць, мы будзем здаваць сабе справу з таго, што й аб чым гаворыць аркестр. Напрыклад, варункам, вымаганым ад кожнага дырыгэнта, ёсьць тое, каб ён меў раздрабленьне слуху, інакш кажучы, каб ён чуў усе інструмэнты адразу, што магчыма асягнуць толькі пасьля падрабязнай апрацоўкі твору.

Такім чынам бачым, што музыкальнасьць, альбо інакш музыкальнае адчуцьцё дасьць магчымасьць зразумець твор праз частае і ўмелае слуханьне твораў з паважнейшым зьместам. Кажу „музыку з паважным зьместам“ таму, што музыку адносна яе зьместу дзеляць на лёгкую й паважную. Музыка „лёгкая“ характэрызуецца тым, што мае лёгка выдзяляючуюся тэму, гэта ёсьць, вельмі мэлёдыйная й мае выразны тэмп, як напрыклад музыка да танцу, якая пабуджае нас сваім рэзкім тэмпам, рамансы, якія прамаўляюць да нас сваім сэнтымэнтам і мэлёдыйнасьцю. Але гэты від музыкі ня гуляе галоўнай ролі ў музыкальнай літэратуры. Праўда, паваенныя часы прыносяць нам вякікую прадукцыю музыкі лёгкага характару, але гэта ёсьць, бэзумоўна, толькі задаваленьне паваенных настрояў публікі.

Перадваенная фрэквэнцыя публікі на канцэртных салях была на значны працэнт большай, чым цяпер, але ня гледзячы на гэты факт і на настрой сучаснай змадэрнізаванай публікі, творы кампазытараў, пачынаючы ад XVI веку, ня сходзяць з канцэртнага рэпэртуару Нашы сучасныя варункі вельмі спрыяюць папулярузацыі музыкі. Кожны вечар дзесяткі радыястанцыяў разносяць на сваіх фалях духовы даробак народаў у выкананьні найлепшых мастакоў. Кожны можа вельмі танным коштам здабыць сабе музыкальную культуру. І, напэўна, асоба, якая няпрыхільна адносілася да выразу „сымфонія“, а рабіла гэта дзеля таго, што ня мела магчымасьці навучыцца разумець і адчуваць гэты від мастацтва, здабыўшы сабе запраўдную музыкальнасьць, павялічыць сваё духовае багацьце.

**Улад. Рудніцкі.**

І. Пэрэц

# Сьмерць музыкі.

(З жыдоўскае мовы — пералажыла Э. Залкінд).

Шкялет ляжыць у ложку, шкялет пакрыты жоўтай, ценкай сухой скурай; музыка Міхал памірае. Каля яго на скрыні сядзіць ягоная жонка Мір'ям з апухшымі вачыма ад плачу. У вузкім пакойчыку сядзяць яго восем сыноў, усе музыкі. Ціха, не гавораць паміж сабой; няма аб чым гаварыць. Дохтар ужо даўно махнуў рукой, а хворы таксама. Нават фэльшар з шпіталю, добры знаўца хвароб, таксама не дае надзеі... Спадку не застанецца, дадуць саван, магілу, а на дадатак яшчэ пляшку гарэлкі... Усё ясна і зразумела, няма чаго гаварыць. Адна Мір'яма ня хоча з гэтым пагадзіцца. Яна ўвесь час моліцца, а толькі цяпер прыбегла з магілак. Яна кажа сваё:

— „Ен памірае за грахі дзяцей. Яны бязбожнікі, гультаі і таму Бог забірае ад іх бацьку. Капэля трапіць карону, цяпер неяк і вясельле не такое будзе, і ніхто не адчуе без яго ўсяе радасьці вясельля".

Але жаласьць Бога вялікая, трэба прасіць, крычаць! а яны, дзеці музыкі, зусім не шкадуюць і ходзяць бяз шапак... Каб ня гэтыя вялікія грахі то яна мае дзядзьку ў небе; ён мусіць там быць самым галоўным, ён бы ёй не адмовіў. Калі ён жыў, то заўсёды быў добрым для яе... а і сёньня ён таксама добры. Ен-бы там стараўся, усё-б зрабіў... Але гэтыя грахі—крычыць яна—гэтыя грахі!

— „Едуць на баль, ядуць там, Бог ведае што! Ня моляцца, а Ен там робіць сваё...

Ай гэтыя грахі, гэтыя грахі!"

Сыны нічога не адказываюць, яны глядзяць у падлогу; кожны ў сваім кутку.

— Яшчэ ёсьць час!—плача яна —Дзеці! дзеці! Ой, дзеці! Кайцеся за вашыя грахі!"

— Мір'ям, Мір'ям,—кліча хввры,—супакойся, ужо прапала, я ўжо сваё адгуляў, Мір'ям. Перастань Мір'ям, я хачу памерці".

Мір'ям абурана:

— Бачыце яго, ён хоча памерці! памерці! а я, а я не... Не, я табе не дазволю памерці, ты мусіш жыць... ты мусіш... я так буду крычаць, што сьмерць ня зможа прыйсьці!"

— Пакінь Мір'ям крычаць,—просіцца хворы—мы ўжо

даволі пракліналі адзін аднаго ў жыцьці... хопіць... перад сьмерцю не выпадае... ой, Мір'ям, Мір'ям, я грашыў і ты грашыла... але канец! Маўчы лепш — я чую, як халодная сьмерць лезе мне ў кончыкі ног і далей пад сэрца. Памірае лічба за лічбай... ня крычы Мір'ям, лепш так!

— Бо ты хочаш пазбавіцца мяне, — раптам перабіла яна яго,—ты заўсёды хацеў пазбавіцца мяна.

— Павер мне, Мір'ям. Я буду сумаваць па табе... па вас таксама дзеці! Хаця і вы мне шмат гора прычынілі, але гэта глупста... гэта ўжо так ляжыць у скрыпачцы — у мове музыкаў... Я ведаю, вы са мной ня чэсна абходзіліся, але ўсё-ж такі кахалі мяне. Калі я часам браў лішнюю шклянку гарэлкі, то вы бурчэлі „п'яны"... ня можна так, бацьцы ня можна... але глупства... я таксама меў бацьку і таксама ня лепш абходзіўся з ім... але канец з гэтым!... Я вам дарую"...

Ен змарыўся, гаворачы.

— Я вам дарую,—пачаў ён зноў праз некалькі секунд. Ен крыху прыпадняўся з ложка і аглядзеў акружаючых.

— Паглядзіце толькі, — сказаў ён раптам, — на гэтых быкоў! Уперлі вочы ў замлю, так як быццам не маглі двух пералічыць!

— Га? усё-ж такі шкода бацьку? хоць і п'яніцу? га?

Малодшы сын падняў вочы. У той самы момант пачалі вочы яго дрыжэць і ён заплакаў. Рэшта братоў за ім. Праз хвіліну уся маленькая хата напоўнілася плачам... Хворы задаволена глядзеў на іх.

— Ну,—раптам бадзёрным голасам сказаў ён—хопіць Я баюся, каб мне запраўды шкода нябыло! хопіць, дзеці! слухайце бацьку.

— Разбойнік, — крычыць Мір'ям — разбойнік! дай ім паплакаць, іх сьлёзы могуць памагчы о Божа!

— Маўчы, Мір'ям, перабіў яе хворы, — я-ж ужо табе сказаў, што я сваё адгуляў... хопіць... Э! Хаім, Бэрка... Іона... ўсе—чуеце! хутчэй бярыце інструмэнты!

Усе вылупілі вочы.

— Я загадваю, — кажа хворы — я прашу! Зрабіце гэта для мяне, вазьмеце інструмэнты й падыйдзеце да ложка.

Дзеці паслухаліся й сталі каля ложка й тры скрыпкі, клярнэт, бас, труба...

— Даице мне паслухаць, як капэля будзе йграць без мяне—кажах воры.—„Мірачка, я прашу цябе, пакліч нашага суседа".

Спачатку Мір'ям не хацела ісьці, але ў яго вочах было столькі просьбы, што яна мусіла гэта зрабіць. (Пазьней яна апавядала, што той пагляд быў вельмі падобны да таго мамэнту, калі яны толькі павянчаліся... „Вы памятуеце,

дзеці, яго голас і вочы?“). Сусед увайшоў, кінуў вокам на хворага й сказаў:

— Выбачайце, але трэба паклікаць людзей на малітву.

— Ня трэба, адказаў хворы, — нашто мне людзі і малітва? Я маю сваю малітву, маю капэлю! Ня йдзі, Мір‘ям, мне не патрэбна малітва“.

І адвярнуўшыся да дзяцей, сказаў:

— Слухайце дзеці... грайце без мяне, як-бы са мной, грайце добра... ня будзьце партачамі на бедных вясельлях... добра глядзіце матку, а цяпер — заграйце мне споведзь... наш сусед будзе са мной казаць“...

І маленькая чатырох-кутная хатка напоўнілася музыкай.

## Разьведка.

(Успаміны).

Быў сумны й неспакойны 1918 год, калі кожны народ змагаўся за незалежнасьць. Шмат палягло тады людзкіх ахвяраў.

Я быў у той час яшчэ малым хлапцом, але памятаю добра, як праходзілі праз наш хутар то бальшавікі, то палякі, як растрэлівалі адны і другія нявінных людзей.

І так цягнулася даволі доўга. Жыў я недалёка вёскі Рашкоў разам з бацькамі. Быў у нас вучыцель Максім Патаповіч, які ў часе вайны кінуў пасаду ў Пскове й вярнуўся ў вёску працаваць на сваёй бацькаўшчыне.

Час быў цяжкі. Усюды голад. Але мінула халодная й галодная вясна; падыйшло лета й неяк лягчэй зрабілася на душы ў кожнага чалавека.

Быў цёплы ліпень. Сонейка грэла не на жарты. Я бачыў, як людзі пачыналі патроху жаць збожжа, як радаваліся, што хутка будзе новы хлеб, якога так доўга ня елі. Але выйшла інакш; узноў пачалі пераходзіць войскі з аднаго мейсца ў другое, ізноў пачалі ўсё руйнаваць і нішчыць.

Асабліва глыбака застаўся мне ў памяці адзін ліпнёвы вечар. Сонейка пачынала захадзіць за небасхіл. Было так ціха, што чуліся з далёкіх ракітаў то жабаў канцэрт, то ба-

сісты гук балотнага буча. Я стаяў каля гаю й доўга глядзеў у далячыню: услухоўваўся ў гэты прыгожы вечар. Раптам пачуў тупат і фырканьне коняў. Праз некалькі хвілін убачыў я, як коньнікі праляцелі міма мяне проста ў наш двор. Я кінуўся бегчы, але ня мог. Ахапіў мяне нейкі страх. Я пачуў, як забрахалі сабакі, як пачалі яны кідацца на незнаёмых коньнікаў. Глянуў я на дарогу, па якой яны праяжджалі і ўбачыў, што нехта бяжыць. Я крыкнуў яму: „Хто там прыехаў?!“ і пачуў: „Разьведка“. Я адразу зразумеў, што гэта былі бальшавікі, якія стаялі недалёка ад нашага хутара. Пачуў я нейкі шум і крык. Мне адразу закружылася ў галаве і ня ведаю, як—апынуўся ў хаце. Убег у пакой і ўбачыў, як гэтыя бальшавіцкія жаўнеры білі нашага вучыцеля Максіма ў плечы прыкладамі й крычэлі: „Вот где белогвардеец, шпіон! Бері его!“ Я ня ведаў, што рабіць, што пачаць, а яны пагналі яго на вуліцу і ўсё крычэлі: „Буржуй! Белогвардеец!“.

Бабуля мая кінулася прад імі на калені, прасіла адпусьціць Максіма, але коньнікі не зварочывалі ўвагі, ды толькі крычэлі: „Уйді старуха, а то ўб'ём і тебя!“ Я стаяў увесь дрыжачы й ня мог нічога зрабіць, нічога памагчы Максіму. Сьлёзы гарачыя ў мяне пакаціліся па твары і я пачуў нейкую слабасьць. Я пачаў іх таксама прасіць. Але яны не зварачывалі ўвагі на нашыя просьбы і сьлёзы. Паўсядалі на коняў і пагналі беднага Максіма па дарозе. Як ён не прасіў, а яны нават і слухаць не хацелі ягонае гутаркі. Я з бабуляй астаўся на мейсцы і ня ведаў, што рабіць і што будзе. Куды пагналі—няведама. А мне ўсё налятаЛі сумныя і страшныя думкі. Я іх адганяў і казаў сабе: „Не, яны Максіма не разстраляюць! За што? Што ён зрабіў ім?!“ Успомніў сабе, як яны былі апранутыя, дык аж дрыжыкі прабеглі на целе. Усіх іх было чатырох. Адзін быў у чырвоным берэце і ў парваным сурдуце, у якім былі павыдзіраныя гузікі й пагоны. Другі быў у сіняй папасе з чырвоным хвастом. Усе яны выглядалі як казакі Сьценькі Разіна.

Пачынала ўжо зусім цямнець, а я ўсё стаяў на мейсцы й страшныя думкі не маглі ад мяне адчапіцца. Загараліся на чыстым небе сьветлыя зорачкі. Птушкі зусім перасталі пяяць, толькі рэха йшло ад далёкіх выстралаў на фроньце. Мне зрабілася неяк нявымоўна сумна і ня мог я нічым пацешыць сябе. Астаўся я адзін з бабуляй, а нашага Максіма ўжо ня было з намі. Яму здавалася, што вось, вось яны яго разстраляюць. Мінулі невялічкія амшаркі і падыходзілі да кургана, на якім быў малады сасьнячок. Максім тут пачуў страшэнны холад і страх і думкі яго мучылі, што вось яны тут, пры гэтай сасонцы скажуць: „Станавіся!“.

Урэшце адважыўся прасіць, ды кажа „Братцы, таварышы! Я такі самы, як і вы, я такі самы чорнарабочы, як і ўсе. Працую на зямлі... пусьціце мяне..“

Тады адзін падумаў і адклікнуўся да іншых: „Таварышы, адпусьцім этого бродягу“.

Хвілінка была цішыні. Пасьля ўсе загаманілі: „Ідзі і больше не агітіруй!“

Максім і ня думаў займацца агітацыяй, сядзеў сабе ў хутары як мыш і абрабляў зямліцу. Яны тут борзда дзёрнулі коняў і паскакалі далей.

Максім астаўся адзін на дарозе сярод палёў і амшараў. Паволі падымаўся на курган і ўсё думаў, што вось вось яны з заду стрэльнуць і ўсё кончыцца. Але, як крыху спусьціўся з гары, ведаў, што цяпер яго тут не дастануць.

Сьцямнела ўжо зусім. Ночка агарнула зямліцу, на якой кожная істота зьбіраецца да адпачынку. Месяц усё падымаўся вышэй і вышэй. Дарога, па якой вяртаўся Максім, была асьвечана сінім, ясным сьветам.

Усё сьціхла. Толькі ў хаце чуўся ўстрывожаны голас Максіма, як апавядаў свае перажываньні.

**Аў. Б.**



# Аб ракетавай камунікацыі

11 красавіка 1928 г. здарыўся вялікі факт у нямецкай тэхніцы: вядомая нямецкая фірма самаходаў Опэль збудавала новы тып сомаходу з ракетавым маторам.

Ракетавы самаход сваім ванкавым выглядам мала чым розьніцца ад звычайнага спартовага самаходу. Пад заслонай на перадзе ня мае бэнзынавага матору. Яго месца заступае ззаду ракетавы. Гэта ёсьць моцна збудаваная зялезная скрынка, у якую ўбудавана некалькі стальных трубак. У гэтыя трубкі ўстаўляюцца ракеты. Кожная ракета мае ўласны электрычны запальнік і дроты, якія вядуць да шофэра. Шофэр, дзякуючы гэтаму, можа запаліць ракеты, калі будзе патрэба. Апроч таго ракетавы самаход мае нормальны руль і тормаз і яшчэ руль вышынёвы, як у самалёце.

Калі быў гатовы такі самаход, шофэр запаліў першую ракету й сілай яе выбуху, скіраванага ўзад, гладка паехаў уперад. Кожная наступная ракета прысьпяшала рух і ўжо праз 8 сэк. самаход меў скорасьць 100 klm. на гадзіну. Гэта ёсьць вельмі важна, бо ніводзін з самаходаў, нават з 1000 конным маторам, так хутка гэткай скорасьці не дасягае.

Цяпер высьветлім, якое значэньне мае вышынёвы руль. Заданьнем яго зьяўляецца ўтрыманьне самаходу пры зямлі, г. зн. у такой пазыцыі, каб пярэднія колы, нават у найвялікшым руху былі прыціснуты да зямлі, з мэтай кіраваць простым рулём у часе мінаньня заваротаў. Трэба адзначыць, што кірунак сілы ракеты ёсьць залежны ад кірунку стальных трубак, з якіх вылятаюць ракеты. Дзеля гэтага, калі-б самаход знайшоўся-б хаць на хвіліну ў ускосным кірунку, напр. пры ўзьяжджаньні на ўзгорак, то бяз вышынёвага руля, у часе далейшых выбухаў ракет, ён астаўся-бы ў тым самым кірунку і паляцеў-бы далей у прастор, як самалёт.

У пару месяцаў па першай спробе зроблена была другая спроба па зялезнай дарозе з замкнёным у сярэдзіне катом. Гэтая спроба закончылася катастрофай і сьмерцяй ката, бо ракеты выпярлі самаход у паветра. Скорасьць была дасягнута 200 klm., а язда цягнулася каля 2 мінут.

Самалёт звычайна мае агранічаную скорасьць лёту сілай матора; ракетавы матор, у выпадку патрэбы, можа яе павялічываць. Дзеля гэтага можна будзе пралятаць праз найвялікшыя буры й цыклёны. Ракетавы самалёт у гэным выпадку падобны да гарматняе кулі, якой бура нічога зрабіць ня можа. Далейшы плюс ракетавага самалёту гэта—прасталінейнасьць лёту, тымчасам як цяперашнія сама-

лёты зьяўляюцца забаўкай ветру. Дзякуючы гэтаму-ж ракетаваму матору магчыма будзе міжплянэтарнае падарожжа.

Перадусім высьветлім, што нас трымала ў абоймах зямлі і чаму не маглі мы пераляцець праз атмосфэру паветра. Нашая зямная куля мае дыямэтр 12,760 klm.; над ёю ўзносіцца пласт паветра каля 12 klm., з такой гушчынёй, што там можа дасягнуць самалёт. Зямная куля для нас цяпер зьмялела, і вялікія прасторы мы пераяжджаем даволі хутка, але ўсёжтакі ня можам вырвацца з сфэры зямлі. Балёны на прывязі для мэтэоролёгічных памераў дасягаюць 30 klm. узвыш, а далей—прастор, куды ніводнае цела, паходзячае з зямлі, ня сьмела сягнуць, за выняткам гарматняй кулі, бо ў часе вайны немцы абстрэлівалі Парыж з адлегласьці ў 120 klm. якімісь няведамымі кулямі. Цяпер ужо зразумела, чаму ракета пераважае звычайны самалёт. Самалёт патрабуе паветра, каб чапляцца крыльлямі і ўрэзвацца прапэльлерам, а ракета наадварот—шукае пустаты, каб ня было супору ў лёце.

Нармальны самалёт з маторам і ракетай будзе ідэальным для нашых назямных падарожжаў. Лёт такога самалёту можа адбывацца, як звычайна, пры помачы пропэльлера і ў паветры будуць толькі ўжыты ракеты ў выпадку патрэбаў: для прысьпяшэньня скарасьці, у выпадку сапсуцьця матору, спатканьня з бурай і інш. Ракетавы самалёт можа ўздымацца з скорасьцю 150—200 klm. на гадзіну, а пасьля павялічваць яе да 500 klm. на гадз. і болей.

Скажу цяпер аб магчымасьці міжплянэтарнай падарожжы. Першай мэтай падарожжы мае быць месяц, як найбліжэйшая плянэта (400.000 klm.). Ракетавы самалёт гэты прастор можа праляцець, разьвіўшы скорасьць да 1000 klm./g., у працягу 17 дзён. Калі такі самалёт будзе дакладна накіраваны на месяц, то скорасьць яго будзе залежная ад сілы выбуху ракет аж да хвіліны, калі ён знойдзецца ў пэўным пункце на простай між зямлёй і месяцам. У гэтым пункце прыцяганьне зямлі й месяца ўзаемна рэдуюцца й тут самалёт мог-бы астанавіцца й астацца на векі. Але яшчэ адзін выбух ракеты й пачнецца ўпадак на месяц. Ад гэнай хвіліны ня трэба падпаліваць ракет, самалёт будзе падаць пад сілай прыцяганьня месяца. Але паданьне было-б катастрафальна ад разьвіўшайся вялікай скорасьці і таму ад гэтага часу пачынаюць запаліваць ракеты, зьмяншаючыя скорасьць, каб была магчымасьць апушчэньня на паверхню месяца. Ведаючы арганізацыйныя здольнасьці немцаў, можна спадзявацца ў кароткім часе новых палепшаньняў і застасаваньня ракетавага мотору.

**П. Радзюк.**

# З зацёмак па геаграфіі Беларусі.

Паводле аблічэньняў розных географаў, перад усім беларускіх (А. Смоліч, Е. Карскі, Азбукін), расейскіх і польскіх, этнаграфічная Беларусь займае абшар у 326.000 км.². Аднак часта паўстаюць пытаньні: колькі ёсьць беларусоў на гэтым абшары? Сколькі беларусоў на ўсім сьвеце? Сколькі наагул жыхарства на Беларусі? Паваенна-рэвалюцыйная завіруха, а разам з гэтым палітычны падзел Беларусі, перашкаджалі дакладнаму устанаўленьню сучаснага стану насельніцтва Беларусі. З прычыны адсутнасьці ў нас навуковых матэр'ялаў па гэтаму пытаньню, годна ўвагі статыстычная табліца мінімума насельніцтва Беларусі, узятая намі з заграпічнай часопісі „Slovansky Přehled“ (№ 3, 1928 г., Прага). Аўтар стацьці, з якой мы перадрукоўваем табліцу, беларускі географ Д-р М. Ільляшэвіч, карыстаўся пры ўкладаньні табліцы з найнавейшых статыстычных крыніцаў, якія ў стацьці пералічаны. Вынікі працы шмат у чым зыходзяцца з вывадамі аблічэньняў праф. А. Смоліча. Паводле гэтай табліцы:

| | Km.² | Лік жыхароў | Лік беларусаў | % беларусаў | Год перапісі |
|---|---|---|---|---|---|
| У Радавай Беларусі | 126.000 | 4,983.168 | 4,016.432 | 80.6 | 1926 |
| У Зах. Беларусі . | 107.000 | 3,411.376 | 2,846.563 | 75 | 1921 |
| У Усх. Беларусі (пад Расеяй) . . | 86.000 | 2,950.472 | 2,125.814 | 72 | 1916 |
| У Беларусі пад Латвіяй .. . . . . | 7.000 | 210.000 | 75.630 | 37 | 1920 |
| Разам . . | 326.000 | 11,554.716 | 9,064.439*) | | |

Агулам на Беларусі жыве каля 10 міл. беларусаў; насяленьне на Беларусі сягае 12 мільёнаў. Часта падаецца, як максімум насельніцтва Беларусі, лічба А. Крэчэўскага — 16 міл., аднак яна навукова ня спраўджана.

На ўсім сьвеце лічба беларусоў прадстаўляецца так:

| | |
|---|---|
| На сваей бацькаўшчыне . . . . | 9.564.439 |
| Каляністы беларусы: | |
| у Сыбіры, Сярэд. Азіі і інш. каля | 1.200.000 |
| У Амэрыцы (перадусім А.Ш.) „ | 600.000 |
| Беларуск. эміграцыя ў Эўропе „ | 500.000 |
| Агулам каля 12.000.000 міл. Усяго . . | 11.414.430 |

*) Дадаць да гэтага яшчэ 5.00.000 рээмігрантаў, якія вернуліся ў 1921-1922 г. г.

# Як ня трэба пісаць.

„Шлях Моладзі“ № 10
— Сьнежань 1929 год

Час для паўстаньня воргану беларускай моладзі даўно прысьпеў. Моладзь наша ў адраджэнскім руху адыграла й адыгрывае вялізарную ролю, як найбольш гарачы й актыўна-творчы элемэнт беларускага грамадзянства. Моладзь — будучыня!

Нажаль моладзь наша ўзгадоўваецца ў ненармальных і надзвычай цяжкіх варунках, амаль ня маючы доступу да роднае школы, ня маючы падтрыманьня з боку старэйшага грамадзянства. І тым балей трэба дзівіцца таму няўстрыманаму імкненьню беларускае моладзі да веды, да тварэньня лепшае долі й сьветлае будучыні нашаму народу.

Спэктаклі на ўсей Зах. Беларусі — гэта справа пераважна маладых артыстаў-аматараў. У кожнай вёсцы, у кожным глухім кутку Беларусі б'юцца гарачыя, маладыя сэрцы, прагнучыя веды й навукі, прагнучыя нейкай творчай працы. Зразумела, што добрая салідная часопісь была-б найадпаведнейшай духовай стравай для моладзі. У пяперашнюю хвіліну маем адзіную „месячную часопісь беларускай моладзі“ — „Шлях Моладзі“. Апнак „Ш. М.“ не дасягае тых мэтаў, якія, здавалася, павінна-б мець „часопісь беларускай моладзі“. Падрабязны агляд усіх вышаўшых у сьвет № № „Шл. М.“ мы дамо ў адным з наступных нумароў „Вучнёўскага Звону“, тут толькі заўважым, што галоўнай хіба прычынай „слабасьці й анэмічнасьці“ „Шл. М.“ ёсьць склад самой рэдакцыйнай калегіі і недахоп маладых працаўнікоў пяра.

Перад намі № 10 „Шляху Моладзі“, якога зьмест, на наш погляд, мала можа зацікавіць беларускую вясковую моладзь. Калі-б выкінуць такія грымучыя „палітычныя навіны“ (якія зрэштай друкуюцца на вокладцы), то „Шлях Моладзі“ зусім-бы парадніўся з „Заранкай“ (дзіцячая часопісь). — Але тады трэ' зьмяніць і назоў часопісі, бо, выбачайце, „Шл. Мол.“ на працягу амаль году яшчэ не паказаў ніводнай сьцежачкі, ня толькі дарогі ці шляху для беларускай моладзі! Часта трапляюцца і памылкі, зусім недапушчальныя. У „Аб усім па троху“ даюцца рэдакцыяй „Ш. М.“ факты, якія, сапраўды, кіруюць моладзь на неўласьцівы шлях. Напр.: найгарачэйшае мейсца на сьвеце ня толькі ля Чырвонага мора, але й на іншых геаграфічных шырынях, дзе гарачыня даходзіць нават да + 56.7°; у Верхаянску бываюць маразы большыя, чым — 47° (як думае рэдакцыя „Ш. М.“), а іменна—69°, а нават і — 70° („Geografja Gospodarcza“ J. S. Cezak 1929); глыбіня мора

паводле апошніх мераньняў сягае ў некаторых мяйсцох больш, чым 10 км.; таксама паблутаны й найгусьцей заселяныя краіны—на першым мейсцы стаіць Бэльгія (251 асоба, а не 254, як у „Ш. М.“); у Польшы 78 асоб, а не 72 і т. д. Трэба на гэта зьвяртаць належную ўвагу, бо пісаць для моладзі, уважаць сябе за духовага павадыра моладзі і вытыкаць вехі для яе — гэта ня лёгкае заданьне.

Ш.

---

## Да ведама ўсіх вучняў.

У цяперашнія часы, калі шпаркі тэмп разьвіцьця тэхнікі й жыцьця магутнай рукой разсявае па ўсёй зямлі цывілізацыю, мы зьяўляемся сьведкамі заніку старое, як матэр'яльнае, так і духовае культуры народаў. На нашай бацькаўшчыне, асабліва, відавочна гінуць старыя спосабы ручное працы, старыя абрады, звычаі, песьні й т. д. Дзе яшчэ ўчора насілі вопратку свайго выробу, там сягоньня ўжо места разлажыла свае фабрычныя вырабы. Тое самое мы бачым і ў нашай архітэктуры. Хаты часта будуюцца па новаму. Крыжы на раздарожжах, званіцы, цэркаўкі хутка адыйдуць у мінуўшчыну.

Наша гімназія задалася мэтай, хоць у малой меры, зафіксаваць гінучае багацьце нашага народу, багацьце, якое складалася вякамі. Ужо вядзецца праца ў гэтым кірунку вучыцелем геаграфіі Міколай Ільяшэвічам. З часам **гімназія здолее зрабіць альбом** відаў усіх вёсак, мястачак, беларускіх краявідаў і т. д. Народныя песьні, казкі й інш. будуць друкавацца ў „Вуч. Звоне“, або іншых спэцыяльных выданьнях. Забыткі матэр'яльнай культуры будуць перахоўвацца ў Бел. Музэі ім. І. Луцкевіча.

Зразумела, што вучні могуць больш, чым хто іншы, зрабіць у гэтай працы.

Дзеля гэтага мы заклікаем усіх вучняў да працы над зьбіраньнем забыткаў, фатаграфіяў беларускіх тыпаў, відаў і т. д. для гімназіяльнага альбому.

Усе матэр'ялы прыймае вучыцель Віл. Белар. Гімназіі М. Ільяшэвіч.

Зафіксуем, што можам!

**Рэдакцыя „Вучнёскага Звону“.**

# Народная творчасьць.

З-пад гаю зялёнага,
З-пад лісту ружовага,
Сакалы вылятали,
Саколку выклікалі:
— Ды саколачка, шэрая,
Ды паляцім з намі,
З намі, сакаламі.
— Жаль гаю зялёнага
І лістка ружовага.
З-пад двор'я новага
Панічы выягджалі,
Паненку вызывалі:
— Ды паненка, паненачка,
Ды паедзем з намі,
З намі, панічамі.
- Рада-б я паехаці,
Жаль падвор'я новага,
І татачкі роднага.
Жаль хаткі мяцёненькай
І мамачкі родненькай.

Запісаў у в. Рабунь, Вялейскага павету
Міх. Шчасны.

---

# Усячына.

Слова „шавінізм" паходзіць ад прозьвішча француcкага жаўнера Chauvin, вэтэрана наполеонскай арміі. Быў ён так адданы Наполеону, што прозьвішча яго сталася сымболям „перасоленага" патрыятызму.

*

У пэўных мясцох Аўстраліі коні ня носяць падкоў, а нешта на ўзор ботаў са скуры.

*

Найстарэйшы музэй у сьвеце знаходзіцца ў Японіі ў горадзе Нара. Заложаны ў 756 гоцзе. Знаходзяцца ў ім прыродныя забыткі й тэхнічныя зборы.

*

Наполеон меў манію лічэньня вакон ува ўсіх дамох.

*

Вопратка кітайская ня мае кішэняў.

*

У Ірляндыі няма зусім вужакаў і мышэй.

# Вучнёускі Гумар

Вучань: Пане вучыцель, я на сягоньня не прыгатаваў лекцыю.

Вучыцель: Чаму?

Вучань: Поводле раскладу, вашай лекцыі ў чацьвер няма, а беларускі календар Знамяроўскага паказаў, што ў гэтым тыдні два чацьвяргі.

*

Вучыцель пытаецца ў вучня:

— За што ты яго ўшчыпнуў?

— За тое, што ён мяне потым ударыў...

*

У Янкі балеў вельмі зуб. Пайшоў ён да дэнтысты, які вырваў яму зуб.

Назаўтра пытаюцца калегі:

— Баліць табе яшчэ?

— Ня ведаю. Дэнтыста затрымаў яго ў сябе.

*

Вучыцель тлумачыць вучням, што чалавек ня можа зваліцца з зямлі па закону прыцяганьня да цэнтру зямлі.

Вучань: А як ён раней трымаўся?

Вучыцель: Калі раней?

Вучань: А тады, калі яшчэ гэтага закону не адкрылі?

# Задачкі ?

**Адказы на задачкі ў № 1 „Вучнёўскага Звону“.**

1-ая задачка — 25 рублёў, 2-ая — 6 дзён, 3-яя задачка — $3^3+3+3/3=31$.

**Задачка 4**. У Бел. Музэі стаяць на паліцы дзьве кнігі ў вокладцы. На аднэй старане іх звонку сядзіць моль, які хоча прагрызьці кнігу наскрозь. Які найкарацейшы шлях моль павінен выбраць, калі таўшчыня кніг 10 цм, а таўшчыня вокладкі $1/2$ цм.?

**Задачка 5**. Адзін чалавек напісаў аб сабе так;

„Усіх пальцаў у мяне дваццаць пяць на аднэй руцэ, столькі на другой руцэ, ды на абодвух нагах дзесяць“.

Чаму ён такі урод?

# ХРОНІКА.

+ 10.I пасьля сьвяточнага перарыву пачаліся заняткі ў гімназіі.

+ 11.I адбылася вечарына. Была пастаўлена опэра ў 3-ох актах „Наталка Палтаўка“. Сьпевы выконываліся пад музыку вучнёўскае капэлі. Рэжысэраваў вычыцель А. Міхалевіч. Уражаньне ў глядзельнікаў засталося добрае. Публікі было надзвычай шмат. Гульня артыстаў выклікала буру воплескаў.

+ 7.I па загаду Кураторыюма былі выдалены з гімназіі заарыштаваныя на хаўтурах Юхны вучні й вучаніцы за ўдзел у хаўтурах.

Об‘ектыўна бяручы справу, прычына да выдаленьня—зусім сьмешная. Нядаўна выдалены дадаткова яшчэ Мілюк Леў, вуч. VI кл. і Стаўбунічанка Ларыса, таксама з VI кл., якія аднак ня былі арыштаваны на хаўтурах.

## Паштовая скрынка.

Каласку. „Вецер“ атрымалі. Пастараемся скарыстаць. „Вучнёўскі Звон“ у вастрог Вашаму бацьцы пасылаецца.

„Прыяцелю“ з Латвіі. „Вучнёўскі Звон“ Вам выслалі. За жаданьні дзякуем. Пішыце аб жыцьці беларускай моладзі ў Латвіі.

А. Багдановічу. Адказы Вашы ўсе добрыя, апрача трэцяга. Трэба было трошкі яшчэ папрацаваць і Вы-б знайшлі правільнае разьвязаньне, бо падход быў правільны.

Omega. Ваш верш мы ня будзем разглядаць, пакуль не атрымаем Ваша прозьвішча й імя. Прозьвішча рэдакцыя можа ня выяўляць, калі Вы гэтага зажадаеце.

Ю. Луцкевіч. Жарт Ваш атрымалі. Зьмесьцім у наступным нумары „Вуч. Зв.“. Прысылайце яшчэ.

Локуціеўская Г. У „Вуч. Звон“ прыймаюцца задачкі, якія сапраўды разьвязываюцца матэматычным спосабам. Вашая задачка падходзіць да загадак. Прысылайце задачкі.

Выдавец: Літэратурна-Гістарычны Гурток.

Рэдактар: Рэдакц. Калегія: Ул. Рудніцкі, М. Шчасны, Я. Шалешка.

Адказны Рэдактар: Р. Астроўскі.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.

# Зьмест